ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 146 (5328)
Чацвер, 20 снежня 2001 года
Кошт у розніцу — 84 руб.

Навіны

## Паўнацэннае харчаванне - падмога ў вучобе

***На базе школы-ліцэя №1 Гродна прайшоў семінар па пытаннях арганізацыі школьнага харчавання.***

Яго ўдзельнікі, а гэта слухачы курсаў павышэння кваліфікацыі кадраў органаў дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання – старшыні пастаянных камісій гарадскіх і раённых Саветаў дэпутатаў вобласці, азнаёміліся з тым, як пастаўлена гэтая справа ў дадзенай навучальнай установе.

Семінар праводзіўся з мэтай прааналізаваць, як выконваецца рашэнне Гродзенскага гарадскога Савета дэпутатаў "Аб паляпшэнні сістэмы школьнага харчавання".

За апошні час у справе арганізацыі харчавання вучняў у школах горада з'явілася шмат цікавых напрацовак: гэта і школьныя буфеты, і сталы самаразліку. Многія вучні харчуюцца з улікам даплаты, якую уносяць іх бацькі. А паўнацэннае харчаванне – гэта добрая падмога ў вучобе.

## Школе - юбілейныя падарункі

***Сваё 160-годдзе адзначыла адна са старэйшых школ Палесся - Шыіцкая сярэдняя школа Калінкавіцкага раёна, пераемніца народнага вучылішча, якое існавала яшчэ да Вялікага Кастрычніка.***

З нагоды юбілею тут адбылося свята. На яго былі запрошаны настаўнікі, выпускнікі школы розных гадоў, кіраўнікі мясцовага саўгаса і сельскага Савета, дырэктары школ раёна.

Старшыня райвыканкама В.І.Піліпец уручыў школе музычны цэнтр і паабяцаў у новым годзе дапамагчы абсталяваць камп'ютэрны клас, а былы выхаванец школы старшыня Гомельскай абласной арганізацыі Саюза мастакоў А.У.Отчык падараваў дзецям сваю карціну.

## Каб душою не ачарсцвець...

***Апошнім часам гамяльчанам шанцуе на сустрэчы з вядомымі беларускімі пісьменнікамі.***

Нядаўна ў Гомель завітаў для творчых сустрэч са сваімі чытачамі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Цёпла віталі яго ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф.Скарыны.

Госць згадаў свае ранейшыя наезды на Гомельшчыну, падзяліўся ўспамінамі пра Уладзіміра Караткевіча, расказаў пра творчыя і чалавечыя стасункі з сябрамі па літаратурнай працы і, вядома ж, шмат чытаў сваіх вершаў. Усе, хто жадаў, маглі прыдбаць новыя зборнікі вершаў паэта, атрымаць аўтографы на памяць.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**



Вось ужо другі год, як Лілія Шумская працуе ў Дзятлаўскай школе №8 настаўніцай пачатковых класаў. Лілія скончыла Пінскае педагагічнае вучылішча, вучыцца завочна ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я.Купалы. Калегі Лілі адзначаюць, што яна творчы работнік і з ёй прыемна працаваць.

**Фота Наталлі АБЛОЖАЙ, БЕЛТА.**

## Праблемы студэнтаў непакояць не толькі іх саміх

***У Мінску адбылася III Міжнародная канферэнцыя на тэму "Навуковыя, сацыяльныя і культурныя праблемы студэнцкай моладзі". Да канферэнцыі быў прымеркаваны XII Рэспубліканскі навукова-метадычны семінар "Вопыт і праблемы арганізацыі навукова-даследчай работы студэнтаў".***

У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М.Танка сабраліся разам і выкладчыкі, і студэнты са шматлікіх ВНУ рэспублікі, а таксама іх расійскія калегі. Сабраліся, каб глыбей усвядоміць кола праблем, з якімі сёння сутыкаецца студэнцкая моладзь, і знайсці адказы хоць на некаторыя пытанні, якія паставіла само жыццё.

Развіццё студэнцкай навукі – адна з найважнейшых умоў паспяховай дзейнасці любой вышэйшай навучальнай установы. Айчынныя ВНУ заўсёды былі моцнымі ў гэтых адносінах. Але цяпер стала відавочна, што ранейшыя метады арганізацыі навукова-даследчай работы павінны быць уважліва перагледжаны.

Якія формы навукова-даследчай работы студэнтаў найбольш перспектыўныя? Як павінны стварацца лабараторыі – самастойна, самімі студэнтамі, ці паводле ранейшых узораў – пры навуковых калектывах выкладчыкаў? Ці варта разглядаць навуковую дзейнасць студэнтаў як абавязковы кампанент прафесійнай падрыхтоўкі альбо даваць студэнтам права выбару, вітаць добраахвотнае пачынанне? Пытанні, здаецца, простыя. Але адказы на іх, што ляжаць на паверхні і вынікаюць з гісторыі развіцця студэнцкай навукі, ужо не задавальняюць сучасных універсітэцкіх навукоўцаў. Перш за ўсё таму, што праблемы навукова-даследчай работы студэнтаў павінны вырашацца ва ўмовах станаўлення універсітэцкай сістэмы адукацыі і шматузроўневай падрыхтоўкі. Пры гэтым яўна патрабуе мадэрнізацыі інфраструктура навуковай дзейнасці ў вышэйшых навучальных установах, якія адчуваюць вялізны дэфіцыт матэрыяльных сродкаў, памяшканняў, абсталявання.

– Студэнцкую навуку трэба ўзводзіць у разрад высокааплатнага прадукту, – упэўнены Леанід Мікалаевіч Давыдзенка, доктар эканамічных навук, прафесар БДПУ імя М.Танка. – Бадай, на кожнай кафедры нашага універсітэта знойдуцца цікавыя, арыгінальныя навуковыя распрацоўкі, якія ствараюцца не дзеля справаздачы. Іх трэба папулярызаваць, надаваць ім "таварны выгляд" – прыгожа ўпакоўваць – і рэалізоўваць як самы звычайны тавар. Мала ганарыцца прызнаннем вузкага кола калег, трэба імкнуцца зрабіць свае адкрыцці і вынаходніцтвы канкурэнтаздольнымі як на айчынным, так і на сусветным рынку.

Напэўна, толькі такія "дробязі" як адсутнасць матэрыяльнага заахвочвання ды прававая неабароненасць інтэлектуальнай маёмасці перашкаджаюць універсітэцкім навукоўцам – і выкладчыкам, і студэнтам – перайсці з аматарскага ўзроўню на прафесійны.

Як адна з асноўных праблем студэнцкай моладзі разглядалася і праблема эканамічная. Бо студэнт, які не заклапочаны пошукам хлеба надзённага, і ў грамадстве займае больш актыўную пазіцыю. Сумныя сацыялагічныя звесткі прадставіў Ігар Васільевіч Катляроў, дэпутат, старшыня Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Паводле яго слоў, кожны другі студэнт мае вострую патрэбу ў жыллі, кожны трэці – у паляпшэнні харчавання. Дзве трэці студэнтаў – часткова ці цалкам – знаходзяцца на ўтрыманні бацькоў і лічаць, што без іх дапамогі не пражыць. І ў той жа час мала хто выкарыстоўвае магчымасці дзе-небудзь падзарабіць.

Можна па-рознаму ацэньваць гэтыя лічбы. Нехта, напрыклад, зробіць выснову, што сучасная моладзь хаваецца за нечыя плечы, а не вырашае свае праблемы самастойна. Як ні дзіўна, але 67 працэнтаў з 3000 рэспандэнтаў са студэнцкага асяроддзя задаволены сваім матэрыяльным становішчам. Пэўную ролю тут адыгрывае псіхалагічны аспект: маладым людзям часам сорамна прызнацца, што яны бедныя. Яны багатыя, бо ў іх усё наперадзе. І шчаслівая сям'я, і адданыя сябры, і цікавая праца. Гэта тое, што па-ранейшаму займае тры першыя прыступкі ў сістэме каштоўнасцей сучаснага студэнцтва.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

Актуальна

## Міфы пра "дзесяцібальную" праз прызму стэрэатыпаў

***Трэці год ў нашай краіне ідзе эксперымент па дзесяцібальнай сістэме ацэньвання ведаў вучняў. Аднак, як сведчыць практыка, у настаўнікаў у рабоце ёсць цяжкасці. Недахоп інфармацыі, адсутнасць у шэрагу выпадкаў метадычных распрацовак, стэрэатыпны падыход кіраўніцтва школы да ацэнкі эфектыўнасці вучэбна-выхаваўчага працэсу прывялі да таго, што новая сістэма ацэнкі ведаў вучняў абрасла чуткамі і ўсялякімі прыдумкамі. А ўсе праблемы падчас яе апрабацыі тлумачацца недасканаласцю гэтай мадэлі.***

**Альбіна Васільеўна КІСЯЛЁВА**, старшы выкладчык кафедры сучасных тэхналогій адукацыі Мінскага гарадскога інстытута павышэння кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі праводзіць курсы па падрыхтоўцы настаўнікаў для работы па новай сістэме ацэньвання ведаў вучняў. Да яе мы звярнуліся з пытаннем: як ідзе падрыхтоўка настаўнікаў, і што гэта за міфы і выдумкі, якія нараджаюцца ў іх асяроддзі.

– Ну, вось, да прыкладу, першы міф: некаторыя настаўнікі, сцвярджваюць да гэтага часу, што, маўляў, спецыфіка прадмета "біялогія" (а таксама "геаграфія", "гісторыя", "выяўленчае мастацтва" і г.д.) не дазваляе выкарыстоўваць дзесяцібальную сістэму. Безумоўна, тут яны памыляюцца. І мы павінны ім гэта тлумачыць.

У чым іх памылка? На жаль, пакуль яшчэ не ўсе настаўнікі валодаюць самым галоўным – **паўзроўневым падыходам** да ацэнкі ведаў вучняў. Яны яшчэ не ў стане падабраць адпаведнае заданне. Заняткі на курсах паказалі, што пасля вывучэння тэорыі і тэхналогіі новай сістэмы – настаўнікі гэта робяць паспяхова. І міф знікае. Увогуле ж, несумненна – новая сістэма дазваляе ацаніць тэарэтычныя веды, практычныя ўменні і развіццё вучня з улікам яго асаблівасцей па ўсіх прадметах.

**- Альбіна Васільеўна, многія настаўнікі лічаць, што дзесяцібальная сістэма не апраўдвае сябе, бо пры паступленні ў вышэйшую навучальную ўстанову веды абітурыентаў ацэньваюцца па іншай сістэме.**

– Па вялікім рахунку, вышэйшай навучальнай установе ўсё роўна, як ацэньваюцца веды вучняў у школе. Галоўнае, каб гэтыя веды былі не ніжэй, чым на ўзроўні прымянення ў стандартнай сітуацыі. Менавіта такі ўзровень маюць заданні цэнтралізаванага тэсціравання.

Многія сцвярджаюць, што пры выкарыстанні новай мадэлі "моцныя" вучні пачынаюць вучыцца горш, а "слабыя" – лепей. Зноў жа – гэта міф, прыдумка. "Моцныя" вучні не вучацца горш. Але арыентацыя на максімальны бал стварае пэўны псіхалагічны дыскамфорт, бо ў пяцібальнай сістэме максімальны бал ставіцца за любое заданне, якое даў настаўнік, а ў дзесяцібальнай – вышэйшы бал ставіцца толькі за прымяненне ведаў у новай сітуацыі.

Тлумачальная работа, якую мы вядзём з настаўнікамі, перад выкарыстаннем новай сістэмы ацэньвання ведаў змяняе сітуацыю. А што тычыцца "слабых" вучняў, дык яны адчуваюць сябе болей камфортна і імкнуцца атрымаць больш высокі і не такі ўжо недасягальны бал. Адсутнасць нездавальняльных адзнак у новай сістэме ацэньвання ведаў вучняў – мабыць, першы рэальны крок у бок гуманізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу, у аснове якога – улік індывідуальных здольнасцей вучня.

Многія настаўнікі лічаць і ўспрымаюць гэта як хіб новай мадэлі, што, маўляў, колькасць балаў, якія выстаўляюцца вучню за той ці іншы від дзейнасці, патрабуюць ад настаўніка-прадметніка індывідуальнага падыходу...

Безумоўна, індывідуальны падыход да вучня пры такой сістэме ацэньвання – першачарговая ўмова. Змест кантрольнай работы, якая прапануецца вучням, аднолькавы. Аднак у яе павінны ўваходзіць заданні ўсіх узроўняў, якія дазволяць вучню выканаць пасільную частку задання.

**- Многія лічаць, што альтэрнатыўнай дзесяцібальнай сістэме ацэньвання ведаў вучняў з'яўляецца рэйтынгавая.**

– Рэйтынгавая – гэта ўсяго толькі адзін са спосабаў колькаснага ўліку ведаў, але яе асновай павінен быць паўзроўневы падыход, які з'яўляецца фундаментам дзесяцібальнай мадэлі. Болей таго. Выстаўленне адзнакі за чвэрць як сярэднеарыфметычнай бягучага кантролю – несправядліва, лічаць многія. І гэта так. Рабіць гэтага не трэба. Выніковая адзнака за чвэрць выстаўляецца як сярэдняя вынікаў тэматычнага кантролю, у якім прадстаўлены заданні ўсіх узроўняў. Бягучы кантроль у сучасных тэхналогіях замяняецца самакантролем, што дазваляе кожнаму вучню свядома засвойваць веды ў добразычлівай абстаноўцы і адсутнасці страху, напружанасці. Такім чынам бягучы кантроль (самакантроль) выконвае функцыю карэкцыі дзейнасці і настаўніка, і вучня.

Мінімальны ўзровень патрабаванняў у стандарце – узровень свядомага ўзнаўлення ведаў (па некаторых прадметах – узровень прымянення ў стандартнай сітуацыі), а ў дзесяцібальнай мадэлі – "пазнавання". Такім чынам, тут назіраецца неадпаведнасць патрабаванняў паміж стандартамі адукацыі і сістэмай ацэнкі ведаў увогуле.

**- Існуе такое меркаванне, што ў школах новага тыпу па ўсіх прадметах вучні павінны мець не ніжэй шасці балаў... (дарэчы, так выказаўся на педсавеце дырэктар школы).**

– Горка ўсведамляць, што працэнтаманія – гэткая жывучая хвароба. Столькі гадоў у школах гавораць пра асобасна арыентаванае навучанне, аднак дапусціць, што таленавіты матэматык няздольны валодаць літаратурнымі ведамі на высокім узроўні, мы не можам. А адсюль – завышаныя патрабаванні да вучняў. Некаторыя кіраўнікі пайшлі яшчэ далей, заявіўшы, што адзін бал – гэта нездавальняльная адзнака.

Любую, нават самую цудоўную, ідэю ажыццяўляюць людзі. Лёс новай сістэмы ацэнкі ведаў – у руках настаўніка. На думку прафесара В.П.Сіманава, які распрацаваў паўзроўневы падыход да ацэнкі ведаў, ніякая рэформа школы немагчыма пакуль не будзе дастойнай сістэмы ацэнкі ведаў. З гэтым цяжка не пагадзіцца.

**Падрыхтавала Святлана БЕНЬ.**

*P.S. Мы просім усіх, каго хвалюе ўзнятая праблема, пісаць нам, дзяліцца сваімі думкамі і меркаваннямі.*

Канферэнцыі

## Псіхолаг у ролі целаахоўніка

***Кафедра ўзроставай і педагагічнай псіхалогіі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта па прапанове ініцыятыўнай групы па стварэнні абласнога грамадскага аб'яднання практычных псіхолагаў нядаўна правяла навукова-практычную канферэнцыю "Тэхналогія суправаджэння - новае ў працы псіхолага".***

Удзельнікамі канферэнцыі сталі 50 псіхолагаў Гродзенскай вобласці. На пленарным пасяджэнні выступілі загадчык кафедры ўзроставай і педагагічнай псіхалогіі ГрДУ Л.А.Сямчук, вядучы спецыяліст упраўлення адукацыі аблвыканкама Н.Н.Мурынава. З асаблівай увагай было выслухана паведамленне псіхолага Н.Р.Кузьмініч, якая сёлета прыняла ўдзел у фламандска-расійскай канферэнцыі па суправаджэнні. Моцнае ўражанне выклікаў даклад на тэму "Філасофскія асновы тэхналогіі суправаджэння", у якім былі вызначаны гістарычныя і філасофскія карані гуманістычнай тэхналогіі – тэхналогіі суправаджэння.

Тэхналогія суправаджэння атрымала шырокае распаўсюджанне ў многіх краінах, у тым ліку і ў Расіі. Каштоўнасць яе ў тым, што яна арыентуецца не на паводзінскі аспект у выхаванні асобы, а на яе ўнутраны свет. Дзейнічаючы ў рамках тэхналогіі суправаджэння, псіхолаг ператвараецца са спецыяліста, які абслугоўвае педагагічны працэс, у спецыяліста, які абслугоўвае працэс псіхічнага развіцця. Асноўнай ідэяй псіхалагічнага суправаджэння з'яўляецца метадалогія і тэорыя гуманістычнай псіхалогіі – асобасна арыентаваны падыход. Пад суправаджэннем разумеецца асаблівы від дапамогі дзіцяці, яго бацькам, педагогам у вырашэнні складаных праблем, звязаных са станаўленнем дзіцяці.

Функцыя псіхолага ў парадыгме суправаджэння ў нечым нагадвае працу целаахоўніка: яго не відаць да таго часу, пакуль ён не спатрэбіцца. Але бываюць моманты, калі псіхолаг павінен неадкладна ўмяшацца (спыніць дзіця, павесці яго за сабой).

Працаваў на канферэнцыі шэраг секцый, на пасяджэннях якіх адбылася ажыўленая размова, у якой раскрываўся вопыт, абмяркоўваліся шляхі ўкаранення тэхналогіі суправаджэння ў розных сферах адукацыі.

На заключнае пасяджэнне кожная секцыя прадставіла свае рэкамендацыі, якія і склалі заключны дакумент канферэнцыі.

**Валянціна БАГАСЛОЎСКАЯ.**

Акцыя

## Моладзь - рэсурс, а не рэзерв

***"Круглыя сталы" на тэму "Роля моладзі ў беларускім грамадстве: учора, сёння, заўтра" прайшлі ў Магілёве, Брэсце і Гродне.***

Зразумела, што моладзь – гэта будучыня нашай краіны. Але даволі шмат маладых людзей успрымае сябе як сучаснасць. Яны лічаць, што іх ідэі, ініцыятыва і энергія могуць быць карысныя беларускаму грамадству ўжо сёння.

Старэйшае пакаленне (а менавіта эксперты) пра ролю моладзі гаварылі шмат і з ахвотай. Пра тое, што яна ў нас розная: актыўная і пасіўная, таленавітая і праблемная, альтруістычна і па-спажывецку настроеная.

Калі ж гаворка заходзіла пра сённяшні дзень, пра тое, што маладыя людзі хацелі б рэалізоўваць свае ідэі і ініцыятывы ўжо цяпер, адразу ўзнікала мноства "калі". Падтрымаем задумы моладзі, калі яна прапануе што-небудзь вартае (з пункту гледжання старэйшага пакалення), калі ініцыятары карыстаюцца аўтарытэтам (вядома, у вачах дарослых), калі яны будуць настойлівымі і здолеюць пераканаць "старэйшых таварышаў".

Карацей кажучы, актыўнасць моладзі апраўдана, калі накіравана ў рэчышча, указанае старэйшымі. Моладзь разглядаецца не як рэсурс, а як рэзерв. Раней такі падыход быў цалкам апраўданы. Моладзь і цяпер павінна заставацца рэзервам. Яе задача – вучыцца на вопыце дарослых. Вядучымі цяперашнім маладым людзям станавіцца яшчэ рана. (З выказванняў старэйшых.)

Маладыя ўдзельнікі парыравалі падобныя сцвярджэнні. Моладзь становіцца пасіўнай менавіта тады, калі ёй спрабуюць кіраваць насуперак яе меркаванню і інтарэсам. Вось і атрымліваецца, што спачатку сацыяльная актыўнасць маладых людзей не запатрабавана грамадствам, а пасля ім не да таго, каб займацца грамадскай дзейнасцю – з'яўляецца сям'я, якую трэба забяспечваць. Такім чынам, з пункту гледжання маладых людзей, калі разглядаць моладзь не толькі як будучых работнікаў народнай гаспадаркі, кіраўнікоў, бацькоў, але і як валанцёрскі рэсурс для вырашэння сацыяльна значных задач, то моладзь – гэта не будучыня, а сучаснасць. І да яе павінна быць належная ўвага.

Безумоўна, можна зразумець і асцярожнасць старэйшага пакалення, і максімалісцкі пафас маладых удзельнікаў. Важна тое, што з абодвух бакоў на гэтых сустрэчах прагучалі галасы пра тое, што гатоўнасць маладых людзей да сацыяльнай актыўнасці – гэта рэсурс, які не павінен быць страчаным для нашага грамадства. Бо калі чалавеку не даць шанц рэалізаваць свой патэнцыял на радзіме ўжо сёння, чалавек можа захацець рэалізаваць яго ў іншай краіне, не чакаючы дасягнення таго ўзросту, які пачынаюць успрымаць усур'ёз. Неабходны агульныя намаганні дзяржаўных структур, грамадскіх аб'яднанняў, каб стварыць належныя ўмовы для рэалізацыі маладымі людзьмі іх ідэй, ініцыятыў, творчага і інтэлектуальнага патэнцыялу. Абмеркаваць, якія гэта павінны быць умовы, якім павінен быць механізм падтрымкі маладзёжных ініцыятыў дзяржавай і грамадствам, якую ролю павінны выконваць дзяржаўныя і грамадскія інстытуты – менавіта гэтыя задачы ставіць перад сабой новая праграма БСМ "Моладзь – рэсурс, а не праблема". Наперадзе яшчэ шмат "круглых сталоў" і мноства пытанняў. Спадзяемся, што і адказы на іх будуць знойдзены.

**Аляксей МАЦАВІЛА.**

Рэпартаж з урока

# Граматыка ўзаемінаў

***Я на самым звычайным уроку, які можа яшчэ мець найменне працоўнага і закрытага. Усё па раскладу і па графіку. Другая змена. На гадзінніку - амаль 16. За вокнамі па-зімоваму змяркаецца. "Ну, і добра. Вуліца не будзе маніць да сябе, і ўсе жаданні застаюцца ў школьным пакоі", - так разважаю я над плюсамі другой змены.***

Дзеці ў неблагім настрої, яны з ахвотай дапамагаюць настаўніцы настройваць відзік, прадчуваючы прагляд цікавага кіно. Знаёмлюся. Гэта - 7 "А" клас Мінскай педагагічнай гімназіі №3 (сёння на занятках прысутнічаюць 23 вучні) і Святлана Уладзіміраўна Радзькова, іх настаўнік-псіхолаг. Зараз будзе ўрок псіхалогіі.

Чамусьці званка на ўрок я не пачула. Але па тым, што дзеці стоячы вітаюць сваю настаўніцу, зразумела - работа пачалася.

- Па традыцыі зробім невялічкую размінку, - адкрывае ўрок Святлана Уладзіміраўна. - Зараз мы будзем узнагароджваць адзін аднаго апладысментамі. Ну, што? Я чакаю вашых апладысментаў...

Па гучнасці і моцы воплескаў адчуваецца, як добразычліва дзеці ставяцца да сваёй настаўніцы.

- Дзякую, мае родныя, мае любыя, - кажа Святлана Уладзіміраўна.

Далей такая ж працэдура чакала і мяне - трэба ж было неяк настаўніцы пазнаёміць дзяцей з "чужаком", які прыйшоў да іх. Напэўна, я ім спадабалася (так я ацаніла апладысменты ў мой адрас), ва ўсякім разе яны зразумелі, што я ніякая не "праверка" і прыйшла да іх з мірам.

Пасля прапанавалася кожнаму, хто жадае, атрымаць свае апладысменты. Вызвалася Наташа. Я так здагадалася, што гэтая прыгожая дзяўчынка - актывістка і выдатніца класа. Яна прызналася, што адчувала ў той момант разам з прыемнымі пачуццямі пэўную сарамлівасць. Цяжка атрымліваць падзяку-узнагароду, калі ты лічыш, што не надта яе заслужыў.

**Мэта размінкі:** ***Іх як бы тры - прыцягнуць увагу, выклікаць цікавасць, замацаваць пройдзены матэрыял. Размінка "Апладысменты" дазваляе дзецям авалодаць навыкамі самарэгуляцыі, навучыцца прымаць кампліменты і самім выказваць іх.***

- Можа, вам тое непрыемна, але мы зоймемся хатнім заданнем, - змяняе накірунак працы Святлана Уладзіміраўна.

Дома сямікласнікам трэба было паназіраць за сваімі паводзінамі ў выпадках, калі цябе ахоплівае супярэчлівы настрой. І паспрабаваць прааналізаваць, чаму так здараецца.

Настаўніца нікога не прымушае выказвацца па гэтаму пытанню. Усё зыходзіць ад жадання саміх вучняў, яны самі падахвочваюцца. Першым пачаў Жэня, ён заўважыў, што раніцай у яго звычайна бывае добры настрой, а пад вечар - ужо дрэнны. Аднакласнікі імкнуцца дапамагчы яму адшукаць прычыну. Але настаўніца папярэджвае, што кожны сам за сябе адказвае. Жэня дакладна не ведае, чаму так адбываецца, можа, таму, што ён стамляецца за дзень або псуюць настрой думкі аб выкананні хатніх заданняў. У Алёны ў жыцці прасцей, бо супярэчнасцей у сваіх паводзінах яна не заўважала. А Ліза прапанавала рэцэпт ад дрэннага настрою: трэба, каб цябе паклікалі ў госці.

### Навошта трэба хатнія заданні?

*(З інтэрв'ю з С.У.Радзьковай):*

***"Для таго, каб у вучняў была магчымасць асэнсаваць тыя веды, якія яны атрымалі на занятках, і праверыць іх на практыцы. Заданні на дом па псіхалогіі - не аб'ёмныя, абавязкова з практычнай накіраванасцю. Часцей за ўсё - гэта назіранні і саманазіранні. Не так даўно мы прайшлі тэму аб саманазіранні як працэсе зваротнай сувязі.***

***Не ўсе выконваюць хатнія заданні, тое зразумела. Таму перад праверкай яго я даю некалькі хвілін на роздум, каб вучні ўспомнілі што-небудзь са свайго жыцця. І той, хто не падумаў дома, мае шанс зрабіць гэта непасрэдна на ўроку, паслухаўшы адказы сваіх сяброў. Жыццёвы вопыт ёсць ва ўсіх, і яны вывучаюць тэарэтычныя веды, абапіраючыся на гэты вопыт".***

Мы падышлі да тлумачэння новай тэмы. Якая гучала так: "Мой стыль узаемінаў". Кожнаму чалавеку ўласцівы свой стыль узаемінаў, які накладвае пазнавальны, характэрны адбітак на паводзіны і ўзаеміны ў любых сітуацыях.

Настаўніца задае вучням пытанні. Колькі стыляў узаемінаў яны ведаюць? Хто прыдумвае іх? Ад чаго залежыць выкарыстанне таго ці іншага стылю? Уплыў стылю ўзаемінаў на развіццё асобы? Больш адказаў гучала на пытанне аб залежнасці выкарыстання пэўнага стылю. Хтосьці з класа падагульніў: маўляў, ад усяго. А калі дакладней, дык - ад сітуацыі, ад суразмоўцы, ад выхаванасці і адукацыі, ад мэты, ад самаадчування і г.д.

З разнастайнасці прапанаваных зараз навукоўцамі класіфікацый стыляў Святлана Уладзіміраўна абрала для сваіх вучняў наступную. Стылі ўзаемінаў бываюць рытуальныя, маніпулятыўныя і гуманістычныя. Разглядаліся ўсе па-асобку. У кожнага народа, групы людзей, іх супольнасці існуюць абрады, якіх традыцыя абавязвае прытрымлівацца. Так, усе ведаюць, што пры сустрэчы з чалавекам трэба вітацца, а з больш блізкім спраўляцца пра яго здароўе і справы. З рытуальнага стылю пачынаюцца любыя стасункі паміж людзьмі. І ён лічыцца ўваходам (варотамі) у іншыя стылі ўзаемінаў.

**Даведка.** ***У Мінскай педагагічнай гімназіі прадмет псіхалогія выкладаецца 10 гадоў для вучняў 5-11 класаў. Канцэпцыя курса была распрацавана Л.В.Арловай, загадчыцай кафедры псіхалогіі Мінскага гарадскога інстытута павышэння кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі. Для кожнага ўзросту напісана свая праграма. Так, сямікласнікі вывучаюць "Старонкі гісторыі школы і педагогікі", "Псіхалогію ўзаемінаў".***

Маніпулятыўныя ўзаеміны можна лічыць такімі, пры якіх да суразмоўцы ставяцца як да сродку дасягнення знешніх у адносінах да яго мэтаў. Такім стылем карысталіся ўсе прысутныя ў класе. Настаўніца прапанавала прайграць знаёмую для вучняў сітуацыю. Наташы (вучаніцы) трэба адпрасіцца ў Пашы (настаўніка фізкультуры) з заняткаў. Дзяўчына кажа, што дрэнна сябе адчувае і пры гэтым у размове націскае на Пашыну дабрыню і спачуванне.

Святлана Уладзіміраўна звяртаецца да класа: "Як вы лічыце, можа, трэба аб'явіць лозунг "Смерць маніпулятарам!"?"

Вучні б з радасцю, бо ім невыносна, што дарослыя (так ім здаецца) ладзяць узаеміны з імі менавіта ў такім стылі. Але пагадзіліся, што і маніпулятыўны стыль мае права на існаванне - з добрымі намерамі, зразумела.

Рысы гуманістычнага стылю добра знаёмы дзецям. Сямікласнікі кажуць, што трэба любіць людзей, ставіцца да іх з павагай і дабрынёй. Яны адзначылі, што на гэтых запаведзях і будуюць свае ўзаеміны. Толькі цяпер яшчэ будуць ведаць, што называецца такі стыль гуманістычным.

Выснова такая: важнай асаблівасцю гуманістычнага стылю з'яўляецца тое, што чаканым вынікам узаемінаў з'яўляецца не падтрымка сацыяльных сувязей, як пры рытуальным, не выкарыстоўванне партнёра ў сваіх мэтах, як пры маніпулятыўным, а сумеснае змяненне ўяўленняў абодвух партнёраў, якое вызначаецца глыбінёй узаемінаў.

Разабраўшыся з класіфікацыяй, для замацавання пачутага класу было прапанавана паглядзець, як ужываюцца ўсе стылі ў жыцці. Урывак з амерыканскай кінастужкі "Штучны інтэлект". Дзеянне адбываецца ў адной сям'і, дзе адзінае дзіця (хлопчык) знаходзіцца ў коме. Урачы пакідаюць бацькоў без надзеі. Бацька вырашае ўзяць у сям'ю біяробата, падобнага, як кропля вады, да іх сына. Робіць ён гэта з гуманных мэтаў, каб аблегчыць боль сваёй жонкі. З дапамогай слоў-заклікання робат пераўтвараецца ў чалавека.

Для самастойнай работы сямікласнікі атрымалі заданне зрабіць графік або дыяграму сваіх стыляў узаемінаў.

І зразумела, што нельга абысціся без узнагарод за працу на ўроку. Настаўніца кажа, што сёння "выдатна" атрымалі: Наташа, Жэня, Паша, Ліза.

### За што выстаўляюцца адзнакі?

*(З інтэрв'ю з С.У.Радзьковай):*

***"Самай аб'ектыўнай ацэнкай можа быць ацэнка за псіхалагічны тэкст, які стварыў вучань пасля знаёмства з тэмай. Дзе ён гаворыць аб сваім разуменні пачутага, прыводзіць прыклады са свайго жыцця, з жыцця сяброў і з мастацкай літаратуры.***

***Я таксама ацэньваю вучня за яго актыўнасць падчас урока, аргументаванасць адказаў, за тое, як ён можа прымяніць свае веды на практыцы. Мы часта інсцэніруем эпізоды, дзе трэба выказваць свой погляд на вырашэнне праблемы. Калі адказы шчырыя і з тлумачэннямі (няхай, можа, і няправільныя), адзнака можа быць самай высокай".***

Недзе прагучаў званок з урока. І я спяшаюся да дзяцей са сваім пытаннем, перш чым яны разбягуцца на перапынак.

- Навошта, на вашу думку, трэба ў школе такі прадмет як "Псіхалогія?"

Ліза:

- Псіхалогія збліжае людзей. Я заўсёды адпачываю на гэтым уроку, ён мяне супакойвае.

Антон:

- Калі б не было псіхалогіі, мы б горш ведалі сябе. Мы вучымся на занятках ладзіць стасункі. Я зразумеў, што з бацькамі трэба быць памякчэй і больш згаворлівым.

Наташа:

- Псіхалогія - навука пра чалавека, пра яго характар. Псіхолагі дапамагаюць людзям зразумець сябе, свае пачуцці і вырашыць праблемы.

Святлане Уладзіміраўне Радзьковай задаю такое ж пытанне. Вось што яна адзначае:

- Вялікая карысць такога прадмета ў школе ў тым, што так мы можам паказаць дзіцяці праблему яго ўзросту, ён зможа яе ўбачыць. Мы навучым яго назіраць за сабой, знаходзіць прычыну праблемы. А калі ты яе ведаеш, то табе лягчэй штосьці рабіць. Ты ўжо разумееш, якую дапамогу прасіць і ў каго. Непасрэдна на ўроках мы папярэджваем з'яўленне асобных праблем, нават без карэкцыйных заняткаў.

Прадмет вызначаецца сярод іншых школьных прадметаў. На яго ўроках дзеці адчуваюць сябе больш вольнымі, натуральнымі. Атмасфера - заўсёды дэмакратычная. Яны гэта бачаць, і я думаю, што цэняць.

Да прадмета "Псіхалогія" у гімназіі цікавасць вялікая. Методыка яго выкладання - арыгінальная, і гэта таксама прываблівае дзяцей. Да таго ж, яны выразна адчуваюць яго сённяшнюю практычную карысць. У гімназіі вось ужо трэці год выходзіць у свет часопіс "Псіхалогія ў школе", які "жыве" і "сілкуецца" меркаваннямі вучняў.

Урок псіхалогіі ў 7 "А" класе скончыўся для мяне непрыкметна. Здалося, што не хапіла часу для асабістых заўваг і назіранняў, я цалкам засяродзілася на той дзеі, якая вяршылася ў мяне на вачах. Таму мне захацелася яе паўтарыць. І папрасілася ў Святланы Уладзіміраўны застацца яшчэ на адзін яе ўрок. Ужо ў 7 "Б".

І так, другая серыя. Дэкарацыі - тыя ж, ідэя - таксама, змяняюцца толькі асноўныя выканаўцы. Я лаўлю сябе на думцы, што мяне ўжо ахапіў нейкі азарт, з'явілася больш пачуццяў і зацікаўленасці. Гэты ўрок таксама скончыўся для мяне неяк раптоўна.

Мне не было сумна на ім, бо, нягледзячы на тое, што тэму я слухала ў другі раз, паўтораў я не заўважыла. То быў ужо "Б" клас, і настаўніца, здавалася, з імі была ўжо іншай.

**Святлана КІРСАНАВА.**

Тэхналогіі

# Клас Палуевай

Адной з першых працаваць па тэхналогіі "Крок за крокам" пачала настаўніца Таццяна Сяргееўна Палуева. 15 гадоў таму скончыла яна дэфекталагічны факультэт МДПІ імя Горкага, працавала ў дапаможнай школе-інтэрнаце Бялынічаў, а з 1991 года працуе настаўніцай пачатковых класаў сярэдняй школы №3 Стаўбцоў.

У верасні 1998 года Таццяна Сяргееўна прыняла падрыхтоўчы клас, а сёння яе выхаванцы - выпускнікі пачатковай школы.

Адукацыйная мадэль "Крок за крокам" ставіць перад сабой мэту сфарміраваць у дзяцей устойлівую вучэбна-пазнавальную цікавасць, садзейнічае паўнавартаснаму акадэмічнаму і асобаснаму развіццю дзяцей малодшага школьнага ўзросту, далучае да вучэбна-выхаваўчага працэсу бацькоў, супрацоўніцтва і партнёрства.

Гэтую задачу настаўніца Палуева ажыццяўляе праз працу ў цэнтрах на ўроку, работу над праектам і супрацоўніцтва з бацькамі. "Школа будучыні павінна стаць школай радасці, - лічыць Таццяна Сяргееўна. - Вельмі хочацца, каб нашы дзеці ішлі ў школу з радасцю, каб іх вочкі гарэлі вялікім жаданнем вучыцца".

Дзень у класе Т.С.Палуевай пачынаецца з ранішняй сустрэчы. Гэты від працы арыентаваны на задавальненне тых акадэмічных і сацыяльных патрэб дзяцей, ад якіх залежыць поспех іх навучання ў школе. Ранішнія сустрэчы выхоўваюць у вучняў звычку клапаціцца пра саміх сябе і іншых людзей, ствараюць жывую, адкрытую і сяброўскую атмасферу на ўвесь дзень, дапамагаюць выпрацоўцы рытуалаў і правіл, пераконваюць дзяцей у тым, што ўдзел кожнага з іх у агульнай працы мае вялікае значэнне. На ранішнія сустрэчы запрашаюцца бацькі, школьны псіхолаг, сацыяльны педагог, медыцынскія работнікі і інш.

Вось як праводзіць іх Таццяна Сяргееўна Палуева:

1. Вучні рассаджваюцца на дыване ў круг, вітаюцца, абменьваюцца навінамі, затым разгадваюць крыжаванку па рускай мове.
2. Вучні рассаджваюцца ў круг, вітаюць адзін аднаго. З імі гутарыць маці вучня - урач-тэрапеўт М.М.Ярмак. Тэма гутаркі - "Як правільна загартоўваць арганізм".
3. Вучні сядзяцца ў круг, вітаюцца, абменьваюцца навінамі. З імі праводзіць гульню сацыяльны педагог С.А.Андрыенка па тэме "Права на асабістую абарону дзяцей, якія трапілі ў экстрэмальныя сітуацыі".

Умела арганізуе Таццяна Сяргееўна і працу ў цэнтрах развіцця - матэматычным, даследчым, канструктарскім, драматычным, цэнтрах пісьменнасці, чытання і творчасці, прычым не толькі ва ўрочны, але і ў пазаўрочны час пры рабоце над праектам. Вучні свабодна выбіраюць занятак у залежнасці ад сваіх інтарэсаў.

У цэнтрах назапашаны разнастайная энцыклапедычная літаратура, матэрыял для правядзення доследаў, розныя прыборы і інструменты, калекцыя карысных выкапняў, гербарый, муляжы садавіны і агародніны, пластыкавыя бутэлькі, металічныя і пластмасавыя коракі і іншыя бяспечныя матэрыялы, ёсць магнітафон, аўдыё - і відэазапісы музычных і літаратурных твораў, розныя цацкі, гульневы матэрыял.

Вось як педагог арганізуе працу ў цэнтрах на ўроку матэматыкі ў падрыхтоўчым класе. Для паспяховай дзейнасці вучняў ствараецца матэматычны цэнтр. У ім знаходзяцца розныя матэматычныя гульні, лато, вагі з гірамі, гадзіннікі, кубкі, наборы таблічак з лічбамі і матэматычнымі дзеяннямі, табліцы лічбаў ад 2 ад 10 і г.д.

Усе матэрыялы размяшчаюцца на стэлажах так, каб дзіця магло ў любы час узяць тое, што яму трэба для працы. Прычым большасць матэрыялаў падрыхтавана самімі бацькамі.

Для арганізацыі гульневай дзейнасці на ўроку матэматыкі клас дзеліцца на некалькі груп (3-4). Дзяленне на групы адбываецца перад урокам пры дапамозе латарэі, "чароўнага" мяшочка, а таксама па днях нараджэння і г.д. Варыянтаў вельмі шмат, але галоўнае правіла, якога прытрымліваецца настаўніца, - захаванне асноўнага прынцыпу тэхналогіі "Крок за крокам" - свабода выбару.

На пэўным этапе ўрока групы дзяцей рассаджваюцца за круглыя сталы і атрымліваюць заданне. Яно можа быць аднолькавае для ўсіх груп, калі педагог сочыць за выбраным спосабам вырашэння праблемы ў групах, дзе ёсць вядучы - найбольш падрыхтаваны вучань, які з'яўляецца памочнікам настаўніка.

Праца ў групах дае выдатныя вынікі. Вучні маюць магчымасць выслухаць тлумачэнні сваіх таварышаў, набываюць навыкі самастойна рабіць высновы, абагульняць матэрыял, дакладна, лаканічна выказваць думкі. Дзіця не баіцца памыліцца, вучыцца адстойваць сваю думку.

Арганізуючы працу на ўроку ў розных цэнтрах, Таццяна Сяргееўна выкарыстоўвае больш шырокі спектр заданняў. Напрыклад, падбіраючы матэматычную задачу, настаўніца ўлічвае тое, што, працуючы ў розных цэнтрах, дзеці будуць па-рознаму афармляць рашэнне гэтай задачы. У матэматычным цэнтры рашаюць задачу, складаючы матэматычны выраз; у навуковым цэнтры вучні перабудоўваюць умову задачы; у выяўленчым - дэманструюць рашэнне ў выглядзе малюнка; у канструктарскім - робяць чарцёж да задачы. Гэта дазваляе паказваць розныя шляхі і спосабы рашэння і зрабіць выснову, што любы спосаб прыводзіць да аднаго і таго ж выніку.

Калі ў цэнтрах ідзе праца па рашэнні прыкладаў, то настаўніца сочыць, каб дзеці не адчулі манатоннасці вылічальных аперацый. У цэнтры гульні дзеці выконваюць складанне і рашэнне прыкладаў, выкарыстоўваючы кубікі. У выяўленчым цэнтры рашэнне прыкладаў суправаджаецца стварэннем рознакаляровага малюнка.

У канструктарскім цэнтры для рашэння прыкладаў вучні выкарыстоўваюць каляровыя кубікі з канструктара "Лега", у матэматычным дзеці рашаюць прыклады і размяшчаюць іх у ланцужок па меры ўзрастання ці ўбывання вынікаў. У навуковым цэнтры даюць падрабязнае тлумачэнне алгарытму рашэння прыкладаў.

Вучням Таццяны Сяргееўны ніколі не бывае сумна і нецікава на ўроках. Многія пасля заняткаў не хочуць ісці дамоў, просяць яшчэ пагуляць, узяць заданні з сабой для працы дома.

Характэрнай рысай адукацыйнай мадэлі "Крок за крокам" з'яўляецца праца над праектам. За больш як тры гады працы сумесна з бацькамі былі вывучаны наступныя праекты: "Я і маё імя", "Навагодняя казка", "Грыбы", "Хлеб - усяму галава", "Наш горад", "Свет акварыума", "Бульба", "Усё пра чай", "Агонь - сябар і вораг", "Сланы", "Матылькі". Працуючы над праектам, Таццяна Сяргееўна дае магчымасць кожнаму вучню глыбока спазнаць навакольны свет, развіць свой інтэлект, раскрыць таленты і магчымасці.

Каб работа над праеткам была эфектыўнай, у пачатку навучальнага года настаўніца прапануе бацькам і вучням тэматыку праектаў, выказвае сваю думку аб тым, што найбольш цікавае для іх, што яны жадаюць выбраць. Пасля гэтага выбіраюцца тэмы праектаў.

Колькасць праектаў залежыць ад інтарэсаў дзяцей. Калі ім цікава працаваць па тэме, калі яны накопліваюць разнастайны матэрыял, то праца можа доўжыцца два месяцы. Калі ж тэма не захапіла дзяцей, дык такі праект можна закрыць і праз тыдзень.

Пасля таго як праект выбраны, дзецям прапануецца на адным лістку напісаць, што ім вядома па дадзенай тэме, а на другім - пра што яны хацелі б даведацца. І ў залежнасці ад гэтага плануецца работа, распрацоўваюцца яе напрамкі. Форма можа быць наступнай:

1. Складанне "павуцінкі".
2. Планаванне па цэнтрах развіцця.
3. Планаванне па этапах работы.

Як вынік працы над праектам - яго абарона.

Яна звычайна праводзіцца ў форме гульні ("Зорны час", "Шчаслівы выпадак", "Поле цудаў" і інш.)

Важным этапам работы па тэхналогіі "Крок за крокам", які накіраваны на фарміраванне самасцвярджэння дзіцяці ў калектыве, з'яўляецца выбар "супердзіцяці". Гэтая праца дае вучням магчымасць адчуць сябе асобай, расказаць пра сябе і сваіх бацькоў, пра свае захапленні. На першым бацькоўскім сходзе настаўніца пазнаёміла дарослых з правіламі правядзення гульні. Трэба сказаць, што бацькі актыўна ўключыліся ў працу. За выхадныя дні яны (і не толькі яны, але і бабулі і дзядулі, дзядзькі і цёткі) афармлялі газету, прысвечаную сваім дзецям. Першае "супердзіця" выбірае звычайна настаўніца пры дапамозе латарэі, лічылкі і інш. Затым выбар робіць само "супердзіця". На спецыяльным стэндзе вывешваецца імя і фотаздымак дзіцяці, і на працягу ўсяго тыдня яно прыходзіць у школу святочна апранутым і знаходзіцца ў зоне павышанай увагі. Па жаданні іншыя дзеці прыносяць яму сувеніры, падарункі, выказваюць розныя пажаданні.

У ролі "супердзіцяці" (а гэта вельмі важна) пабывалі ўсе вучні Таццяны Сяргееўны. Адукацыйная тэхналогія "Крок за крокам" прадугледжвае актыўны ўдзел бацькоў у вучэбна-выхаваўчым працэсе. Разумеючы гэта, Таццяна Сяргееўна яшчэ на першым бацькоўскім сходзе расказала дарослым аб сутнасці новай адукацыйнай мадэлі, іх ролі ў выхаванні і навучанні сваіх дзяцей, акрэсліла асноўныя напрамкі супрацоўніцтва бацькоў з настаўнікам і класам, склала графік наведвання бацькамі заняткаў, расказала, якія перспектывы ў развіцці ва ўзаемаадносінах паміж дзецьмі і бацькамі дае гэтая тэхналогія.

Большасць бацькоў адгукнулася на прапанову педагога прыняць актыўны ўдзел у жыцці класа. Дзейсная дапамога была аказана ў стварэнні вучэбна-развіццёвага асяроддзя (падбор абсталявання для цэнтраў, літаратуры для працы па выбраных праектах), вырашаны шматлікія гаспадарчыя пытанні.

Другім этапам працы з бацькамі быў выбар дзеяздольнага бацькоўскага камітэта. У яго ўвайшлі людзі, якія ўмеюць і жадаюць працаваць разам з настаўнікам.

Бацькі рэгулярна прыходзяць у клас, наведваюць урокі, разам з дзецьмі працуюць у цэнтрах і над праектам, удзельнічаюць у яго абароне, арганізуюць экскурсіі і паходы. Дзеці разам з бацькамі некалькі разоў выязджалі ў школу-інтэрнат з канцэртамі і гуманітарнай дапамогай.

Цікава, змястоўна праводзіць настаўніца класныя бацькоўскія сходы, якіх бывае 4-5 у год. На іх абмяркоўваюцца найбольш вострыя пытанні вучэбна-выхаваўчага працэсу, падводзяцца вынікі, вызначаюцца шляхі эфектыўнага супрацоўніцтва сям'і і школы. Па меры неабходнасці збіраюцца і мінісходы для некалькіх бацькоў, дзе разглядаюцца пытанні, што датычаць пэўнай групы дзяцей або іх сем'яў.

"Многія ў мяне пытаюцца, чым і як я зацікавіла бацькоў сваіх вучняў, - прызнаецца Таццяна Сяргееўна. - Я думаю, што бацькі мне проста паверылі і аказаліся неабыякавымі людзьмі".

Наведаўшы і прааналізаваўшы ўрокі і мерапрыемствы настаўніцы Палуевай, упэўніваешся, што дзеці камфортна адчуваюць сябе, свабодна ўмеюць трымацца адзін з адным, з настаўнікамі, бацькамі, у іх з'явілася ўстойлівая цікавасць да пазнання навакольнага свету. Праведзеная педагогам праца згуртоўвае дзяцей і бацькоў, дапамагае знаходзіць аднадумцаў. Выхаванцы Таццяны Сяргееўны наведваюць школу юных інтэлектуалаў, якая дзейнічае ў сярэдняй школе №3, і часта з'яўляюцца пераможцамі ў розных гульнях і конкурсах, алімпіядах.

Вопытам сваёй працы Т.С.Палуева ахвотна дзеліцца з калегамі не толькі ў школе і раёне, але і ў вобласці (выступала на навукова-практычнай канферэнцыі настаўнікаў, якія працуюць па тэхналогіі "Крок за крокам", МАІПК, май 2001 г.).

У раёне створаны клуб "Будучыня", работу якога каардынуе арганізатар аддзела адукацыі Леанарда Вячаславаўна Карпуць. Клуб аб'ядноўвае педагогаў раёна, якія працуюць па тэхналогіі "Крок за крокам", а таксама выхавальнікаў групы падоўжанага дня і намеснікаў дырэктараў па вучэбна-выхаваўчай рабоце. Кожны год клуб пачынае заняткі ў сярэдняй школе №3. Таццяна Сяргееўна расказвае пра набыткі і цяжкасці, вядзе ўрокі, дэманструе абарону праектаў. У раёне з кожным годам становіцца ўсё больш і больш прыхільнікаў гэтай новай адукацыйнай мадэлі.

**Ванда ДЗЯМ'ЯНКА, метадыст вучэбна-метадычнага кабінета раённага аддзела адукацыі Стаўбцоўскага раёна.**



***У практыку работы школ Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці ўведзена навучанне па тэхналогіі "Крок за крокам"... Па гэтай адукацыйнай мадэлі працуюць ужо дзесяць класаў (у №1 і №2 Стаўбцоў, Дзераўнянскай, Старасвержанскай, Вішнявецкай і Коласаўскай сярэдніх сельскіх школах). У наступным навучальным годзе плануецца адкрыць яшчэ па аднаму класу ў першай і трэцяй гарадскіх школах і Дзераўнянскай сярэдняй школе.***

НА ЗДЫМКУ: Таццяна Сяргееўна Палуева і яе вучні ў час абароны праекту "Матылькі".

Партрэт сельскай школы

# Знак роўнасці

***Паставіць сёння паміж гарадской і сельскай школай знак роўнасці ніхто не адважыцца. І вучні ў іх быццам бы розныя, і настаўнікі выкладаюць па-рознаму, маўляў, узровень не той, ды і ўмовы вызначаюцца "непадобнасцю". Наконт вучняў і настаўнікаў паспрачацца яшчэ можна, а што датычыцца ўмоў, дык аргументаў для спрэчкі, думаю, не хопіць, бо супраць ізаляванасці сельскай школы ад так званай цывілізацыі нічога не скажаш, хоць ёсць і прагрэсіўныя школы ў беларускіх вёсках.***

Кіраўская сярэдняя школа Віцебскага раёна па сваім статусе з'яўляецца сельскай школай. У ёй вучыцца 246 вучняў і працуе 31 настаўнік. Асацыяцыі з вясковай школай у мяне былі традыцыйныя - аднапавярховы будынак, вучняў няшмат, затое шмат праблем, асабліва матэрыяльнага плана. А тут на ганку двухпавярховага цаглянага будынка мяне з усмешкай сустрэла дырэктар - Людміла Аляксандраўна Арцёменка і адразу пачала знаёміць са школай. Яна хоць і не дабудавана (няма актавай і спартыўнай залы), але класныя пакоі -чыстыя і даволі ўтульныя, на калідорных сценах вісяць малюнкі дзяцей, вельмі камфортная тут сталоўка. Умовы быццам бы нічога сабе, значыць, шмат увагі павінна надавацца навучальнаму працэсу, яго якасці, што Людміла Аляксандраўна пракаменціравала так:

- Вясковыя школы шукаюць свае шляхі развіцця. У нас ёсць выхад у Лужаснянскую школу-інтэрнат-гімназію для здольных і таленавітых дзяцей. У ёй вучацца пяць вучняў з нашай школы. Семнаццаць чалавек працягваюць вучобу ў гарадскіх гімназіях, таму адпаведная падрыхтоўка вядзецца. Дарэчы, і паступленне нашых выпускнікоў у вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны даказвае, што сельскія настаўнікі працуюць. У мінулым навучальным годзе з 17 выпускнікоў амаль палова паступіла ў ВНУ. Гэта нармальны паказчык для вясковай школы. Да таго ж школа працуе ў рэчышчы засваення дзяржаўнай адукацыйнай праграмы "2100" - пераход да 12-гадовага навучання. Ужо не першы год у нас дзейнічае праграма развіццёвага навучання, выкладаюцца псіхалогія, курс "Дзелавы чалавек", прадметы эканамічнага профілю. У будучым плануем супрацоўнічаць з філіяламі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, што знаходзіцца ў Віцебску (былая бухгалтарская школа), - адкрыць эканамічны клас, пачаць профільную адукацыю, увесці такія падметы як бухгалтарскі ўлік, прыкладная эканоміка, каб нашы выпускнікі мелі магчымасць атрымаць спецыяльнасць бухгалтара.

Безумоўна, дзесьці мы адстаем ад школ гарадскіх, але трэба ўлічваць матэрыяльную базу сельскіх школ. Хацелася б мець добры камп'ютэрны клас, выхад у Інтэрнет, метадычнае забеспячэнне на ўзроўні, і падручнікі павінны адпавядаць часу. Нам абяцалі прыкласці да падручніка поўны метадычны комплекс, чаго не маем па сённяшні дзень.

Асноўнымі прыярытэтамі сучаснай школьнай адукацыі з'яўляюцца асобасна-арыентаваны падыход у навучанні і гуманізацыя таго ж навучання. Гэтыя прынцыпы з'яўляюцца асноўнымі ў працы педагагічнага калектыву Кіраўскай сярэдняй школы. У ёй ужо не першы год настаўнікі працуюць у рамках праграмы інтэграванага навучання. Вучнямі школы з'яўляюцца дзеці з затрыманым псіхічным развіццём, з асаблівасцямі маўлення. Трэба прыкласці шмат намаганняў, каб такія дзеці адчувалі сябе ў сценах звычайнай школы ўтульна. Па словах Людмілы Аляксандраўны Арцёменка, настаўнікі прыклалі шмат намаганняў, праводзячы работу з бацькамі і вучнямі. Яшчэ ў школе працуюць псіхолаг і дэфектолаг. Згаданыя дзеці вучацца ў звычайных класах, што дае ім магчымасць развівацца ў нармальных умовах. Канешне, яны патрабуюць асаблівай увагі і цярпімасці як з боку настаўнікаў, так і з боку аднакласнікаў, але, тым не менш, маюць поўнае права вучыцца ў нармальнай школе.

Акрамя праграм развіццёвага інтэграванага навучання, у школе знайшла сваё месца і праграма дыферэнцыраванага рознаўзроўневага навучання. За кошт школьнага кампанента вучням даецца магчымасць выбраць той узровень набыцця ведаў, які адпавядае іх магчымасцям і здольнасцям. Напрыклад, у мінулым навучальным годзе ў школе быў 9-ы клас, які падзялілі на тры групы па прадмеце "Руская мова"- павышаны, сярэдні і нізкі. У гэтым класе працавалі тры настаўнікі. Кожная група павінна была вучыцца па агульнай праграме, але розніца была ў аб'ёме і засвоенасці ведаў. Здаралася так, што некаторыя дзеці па некалькі разоў на працягу года пераходзілі з адной групы ў другую. Праграма дыферэнцыраванага рознаўзроўневага навучання дапамагае выявіць вучню схільнасці да таго ці іншага прадмета. Калі дзіця паказвае слабыя веды ў філалагічным напрамку, дык вучань можа аказацца выдатнікам у матэматыцы або фізіцы. Але той узровень ведаў па філалогіі, які яму прыдасца ў жыцці, усё роўна атрымае. Гэтая праграма ў школе дзейнічае ўжо пяць гадоў, і вынікі, безумоўна, ёсць. Узяць хаця б той працэнт паступлення ў ВНУ, пра які гаварылася вышэй, і тое, што выхаванцы Кіраўскай сярэдняй школы з'яўляюцца навучэнцамі віцебскіх гімназій і ліцэяў.

Кіраўская школа не першы год рушыць па шляху рэформы. Другі год у ёй дзейнічае 10-бальная сістэма адзнак. Сваімі ўражаннямі падзяліліся як вучні, так і настаўнікі. Вучні займелі магчымасць атрымлівць справядлівую адзнаку. "Лічу, што 10-бальная сістэма - гэта добра, - гаворыць дзесяцікласніца Таццяна Курбачова. - Раней, напрыклад, "тройка" магла быць моцная або слабая, а зараз можна паставіць "адзінку", "двойку", "тройку" і "чацвёрку". Па англійскай мове ў мяне была моцная "пяцёрка", і ў аднакласніка таксама "пяцёрка", але з нацяжкай. Цяпер камусьці ставяць "чацвёркі", а камусьці - "сямёркі" - справядліва". Васьмікласніца Ірына Пішчэйка дадала: "10-бальная сістэма дае больш магчымасцяў зарабіць добрую адзнаку. А атрымаць яе стала куды складаней, чым раней. Да ўрока трэба рыхтавацца не толькі па падручніку, але і шукаць дадатковую літаратуру".

У гаворку ўступіла дырэктар: "Вучню лягчэй ў плане маральным. Ён атрымлівае той бал, які заслугоўвае. А настаўніку пакуль цяжка, бо ён скаваны стэрэатыпам пяцібальнай сістэмы". Тое, што настаўніку псіхалагічна цяжка адаптавацца да новай сістэмы, пацвердзіла і настаўніца англійскай мовы Ларыса Сямёнаўна Давыдзёнак:

- У працу па 10-бальнай сістэме ўключылася ўся школа, але калі казаць пра сябе, то мне цяжкавата, хоць і разумею, што 5-бальная сістэма - учарашні дзень. Цяжка перабудавацца псіхалагічна, таму настаўніку неабходна дапамога, напрыклад, можна стварыць нейкую сістэму патрабаванняў адносна кожнай адзнакі 10-бальнай сістэмы.

Сапраўды, дапамога настаўніку трэба як псіхалагічная, так і метадычная. 10-бальная сістэма ацэнкі ведаў пакуль знаходзіцца ў стане апрабацыі, таму розныя праблемы, з ёю звязаныя, - з'ява нармальная.

Што ж датычыцца Кіраўскай сярэдняй школы, то яна, па-мойму, заслугоўвае знака роўнасці з гарадской. Упэўнена, што далёка не кожная гарадская школа працуе па такой колькасці інавацый, як Кіраўская, ды і не кожная апрабіруе 10-бальную сістэму. А калі гаварыць пра вучнёўскі і педагагічны калектыў школы, дык ён заслугоўвае асаблівай увагі. Трэба пазбаўляцца ад штампаў - "гарадская" і "сельская" школа, хоць у апошняй ёсць прычыны, а дакладней, умовы стаяць на прыступку ніжэй.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

